ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.32 (3152) ● ● ЧАЦВЕР, 27 ЖНІЎНЯ, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: **WWW.GOLAS.BY**



**Званы памяці**

Старшым памочнікам камандзіра на "Курску" быў наш суайчыннік Сяргей Дудко Стар. 2



**Энтузіязм — вялікая сіла**

Валанцёры заканчваюць рэстаўрацыю фасада вуглавой вежы Любчанскага замка, адной са славутасцяў Навагрудчыны Стар. 3



**Прыемныя моманты сезона**

У Рускім тэатры сёлета шмат юбілеяў вядомых артыстаў Стар. 4

ДА ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

# Рарытэтныя выданні — у кніжную скарбніцу

## Зарубежнае прадпрыемства працягвае ў нашай краіне мецэнацкія традыцыі

Адам Мальдзіс

Вядомая ў свеце англа-амерыканская кампанія "Брытыш-Амерыкэн Тобака Трэйдынг Компані" ўжо некалькі год звязана дабрачыннымі справамі з беларускімі ўстановамі культуры. У 2004 годзе, напрыклад, яна передала ў фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (НББ) 39 унікальных выданняў XVII-XVIII стагоддзяў. У 2006 годзе дапамагла ў падрыхтоўцы і передала ў дар той жа бібліятэцы 2800 экземпляраў альбома "Рарытэты Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі". Яшчэ праз два гады была аказана падтрымка ў тыражаванні электроннай версіі вядомага рукапісу "Слуцкага Евангелля", падпісана генеральнае пагадненне з той жа бібліятэкай. Варта дадаць, што фірмай аказваецца дапамога і Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі.



Раман Матульскі (у цэнтры) дэманструе гасцям новыя паступленні

І вось сёлета ў сярэдзіне жніўня — новы высакародны жэст: фірма ўрачыста передала НББ 26 экземпляраў унікальных выданняў. Гэта 18 рэдкіх друкаваных і рукапісных кніг, тры карты, на якіх паказаны беларускія землі, і пяць экземпляраў перыядычных выданняў. Асабліва каштоўныя, на мой погляд, сем рукапісаў старажытнай кірылічнай традыцыі, створаных стараабрадцамі Беларусі (пераважна на Гомельшчыне, у Ветцы) у XVIII-XIX стагоддзях. Сярод рарытэтаў — жыційныя, богаслужбовыя, пеўчыя славянарускія кнігі. Ёсць каштоўныя рукапісы гэтак званай крукавай натацыі другой чвэрці XIX стагоддзя — Ірмалогій, Актоіх, зборнік велікодных службаў. Знаходкі зроблены ў букіністычных магазінах, у прыватных уладальнікаў.

Першым на цырымоніі перадачы выступіў намеснік міністра культуры Беларусі Віктар Кураш. Ён прывёў лічбы, якія характарызуюць бібліятэчную сістэму краіны: у ёй — каля 12 тысяч працаўнікоў, каля чатырох мільёнаў чытачоў, якім робіцца ў год звыш 70 мільёнаў кнігавыдач; 15 працэнтаў ад фінансавання бібліятэк ідзе на набыццё новай літаратуры. Ствараецца цэнтр па алічбоўцы кніг, у тым ліку па індывідуальных заказах.

Са словамі ўдзячнасці дабрадзеям выступілі дырэктар НББ Раман Матульскі, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп. Начальнік аддзела па карпаратыўных сувязях "Брытыш-Амэрыкэн Тобака Трэйдынг Компані" Сяргей Буры сказаў у заключэнні: "Удзел у захаванні багатай культурнай спадчыны Беларусі — гэта, без сумнення, адна з самых ганаровых місій, якія бярэ на сябе наша кампанія ў рамках канцэпцыі сацыяльна адказнага вядзення бізнесу". Ён жа адказаў на пытанні журналістаў.

Падараваныя рэдкасці выстаўлены ў чытальнай зале рукапісаў, старадрукаваных і рэдкіх выданняў НББ.

ВЕСТКІ

## Інтэлект перамагае!

Віктар Кушнароў

**Беларускія студэнты зноў вярнуліся з Міжнароднай матэматычнай алімпіяды з узнагародамі**

Нагадаем, XVI Міжнародная студэнцкая матэматычная алімпіяда праходзіла ў Будапешце. Залатыя і сярэбраныя медалі на ёй заваявала каманда Беларускага дзяржаўнага універсітэта. "Золата" атрымалі Руслан Максімаў, Уладзімір Ягораў і Іван Блізнец. "Серабро" прывезлі Міхаіл Карпук, Дзяніс Пірштук, Міхаіл Глушчанка. У поспеху беларусаў немалая заслуга і трэнера каманды дацэнта Юрыя Сыроіда, а таксама яе кіраўніка, дацэнта Дзмітрыя Базылева.

## Горад пашыраецца на поўнач

**У Мінску неўзабаве з'явіцца новы жылы раён**

Дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама Андрэй Галь расказаў, што ў бліжэйшых планах прадпрыемства значыцца будаўніцтва жылога раёна Паўночны. Ён размесціцца каля цяперашняга пасёлка Навінкі і на незанятых землях да Мінскай кальцавой аўтадарогі. Цяпер ужо ідзе яго праектаванне. У Паўночным мяркуецца ўзвесці больш за мільён квадратных метраў жылля.

Як патлумачыў Андрэй Галь, раней гэтая тэрыторыя Мінска не асвойвалася з-за праблем з цеплазабеспячэннем. Цяпер вырашана: першыя дамы падключаць да інжынерных сетак, што існуюць, а потым будзе збудавана новая кацельня.

# Стваральная энергія "Амкадора"

## Замежныя спажыўцы бяруць для складанай працы беларускую тэхніку

Іван Яцкавец

У прычарнаморскай Адэсе паспяхова прайшла Нацыянальная выстава "Беларусь-2009". Больш за восем дзесяткаў прадпрыемстваў, арганізацый представілі свае вырабы ўкраінскім пакупнікам. Адкрытае акцыянернае таварыства "Амкадор" працавала ў пары з афіцыйным дылерам ва Украіне кампаніяй "Техноторг-Дон". Адзін з пагрузчыкаў, грузападымальнасцю больш за 3 тоны, сабраны на мінскім заводзе "Ударнік", быў прададзены ў Адэсе прама з выставы.

У прэс-службе таварыства патлумачылі: «АМКАДОР 333В» — машына эфектыўная, надзейная. Пагрузчык часта можна сустрэць на прамысловых прадпрыемствах, будоўлях, у кар'ерах, на сельскагаспадарчых работах як у нашай краіне, так і за мяжой. Між іншым, менавіта такога "амкадораўскага" памочніка летась найчасцей набывалі замежныя пакупнікі: было прададзена больш за 500 пагрузчыкаў. І ў ходзе адэскай выставы праведзены шэраг дзелавых перамоваў: украінскія аграрыі маюць намер набываць беларускую тэхніку.

Сёння "Амкадор" — у лідэрах айчыннага машынабудавання, актыўна заваёўвае сусветныя рынкі. Гэта адзін з буйнейшых на тэрыторыі Еўропы вытворцаў дарожна-будаўнічай, камунальнай, снегаўборачнай тэхнікі. Машыны добра зарэкамендавалі сябе і ў лясной гаспадарцы. Цяпер, з падаражаннем у свеце традыцыйных энерганосьбітаў, праяўляюць да іх цікавасць і энергетыкі. Нядаўна, напрыклад, на пастаянна дзеючай выставе "Амкадора" прайшлі паказальныя выступленні вадзі-



целяў-выпрабавальнікаў для гасцей з "Белэнерга". Іх цікавіла: як выкарыстаць сілу і спрыт тэхнікі ў нетрадыцыйнай энергетыцы? Спецыялісты ўпэўніліся, што яна вельмі эфектыўная пры асваенні лясных багаццяў.

# Званы памяці

## Старшым памочнікам камандзіра на “Курску” быў наш суайчыннік Сяргей Дудко

**Галіна Навіцкая**

Помніце трагічныя дні жніўня 2000 года, калі ў Баранцавым моры вяліся пошукі расійскай атамнай падводнай лодкі “Курск”? 118 маракоў не вярнуліся тады з паходу. Была аперацыя па пад'ёме патанулай у выніку выбуху тарпеды субмарыны, афіцыйнае расследаванне прычын трагедыі і пахаванне загінулых. 32 падводнікі з “Курска” ляжаць на Серафімаўскіх могілках у Санкт-Пецярбургу. І сёлета, як штогод, там прайшлі жалобныя мерапрыемствы. Яны пачаліся з набажэнства ў Мікола-Богаяўленскім Марскім кафедральным саборы, дзе ў капліцы ўсталявана мемарыяльная дошка з прозвішчамі загінулых. Прыйшлі родныя і блізкія, маракі, прадстаўнікі ўлады і грамадскасці. Святар маліўся аб супакаенні душ воінаў, потым і на Серафімаўскіх могілках прайшла служба. Заканчваючы яе, святар сказаў: “Ужо праходзіць самы вострыя боль страты. Паступова ён будзе саступаць месца светлай памяці пра воінаў. Памяць будзе вечнай”. Вялікая колькасць тых, хто прыйшоў на магілкі, і мора кветак, і дагледжанасць мемарыяла сведчаць: пра экіпаж памятаюць.

Адным з ініцыятараў правядзення Дня памяці ў Санкт-Пецярбургу выступіў Фонд “Белыя Росы” — яго ўзначальвае наша зямлячка Ірына Рогава. Фонд створаны ў паўночнай расійскай сталіцы для дапамогі тым нашым суайчыннікам, хто не забываецца пра свае карані, культуру, хоча захаваць і перадаць нашчадкам народныя традыцыі. Актывісты Фонда лічаць важным, каб беларусы ведалі сваіх герояў, воінаў, паэтаў, палітыкаў, дзеячаў культуры. Менавіта таму сёлета Фонд выступіў з ініцыятывай пашырыць рамкі Дня памяці і смутку, працягнута рука дапамогі родным людзям загінулых падводнікаў, якім яна неабходна. У ліку іншых запрошаных была ў Піцеры і дэлегацыя таварыства “Радзіма”, мы разам з кіраўніком Санкт-Пецярбургскага аддзялення Пасольства Беларусі у Расіі Дзмітрыем Сівіцкім усклалі кветкі да помніка экіпажу “Курска”.



Мемарыял у памяць пра маракоў “Курска” ў Санкт-Пецярбургу

“Мы палічылі сваім доўгам прыняць удзел у Дні памяці, — гаворыць Ірына Рогава. — Для нас гэта жалобная і святая дата. Як вядома, экіпаж падлодкі быў шматнацыянальным. Старшым памочнікам камандзіра на “Курску” быў наш суайчыннік Сяргей Дудко. Беларус, які загінуў як воін на баявым пасту, — так расказваюць пра яго ў беларускіх школах. Ведаюць пра Сяргея і ў Пецярбургу, яго імем названа адна са школ у Чырвонагвардзейскім раёне”.

Тут варта патлумачыць, што з прапановай аб прысваенні школе №134 імя Сяргея Дудко да кіраўніцтва Санкт-Пецярбурга звярталіся грамадская арганізацыя “Беларуска-Расійскае брацтва”сумесна з муніцыпальным фарміраваннем “Ржэўка”. І 28 студзеня 2003 года школа атрымала права насіць яго імя. У хуткім часе вучні і настаўнікі школы напісалі пра гэта беларускаму Прэзідэнту. А 24 красавіка 2004 года на будынку школы ўрачыста была ўсталявана мемарыяльная дошка з імем Сяргея Дудко, а у самой школе пачаў працаваць камп'ютарны клас — падарунак ад Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Цяпер ёсць планы па стварэнні ў школе музея памяці экіпажа “Курска”: пра гэта дбае “Беларуска-Расійскае брацтва” на чале з Віктарам Аляксеевым і Фонд “Белыя Росы”.

Дзень смутку завяршыўся наведваннем Піскароўскіх могілак, там ёсць і манумент у памяць пра 2300 навучэнцаў рамесных вучылішчаў з Беларусі, якія загінулі ў дні блакады Ленінграда.

**СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ**

# Над хвалямі сінеючага Ніла...

Скажаш слова Егіпет — і ў свядомасці ўсплываюць пяскі пустыні, чарнатварыя бедуіны з вярблюдамі, магутны Сфінкс і непадуладныя часу піраміды. А спалучэнне слоў “навуковец егіптолаг” я асабіста звязваю з вобразам бясстрашнага Індзіяны Джонса. Між іншым, бабуля Харысана Форда, які сыграў гэтага героя ў апошняй экранізацыі яго прыгод, была родам з Мінска...

**Юлія Логвінава**

А як выглядае некінематаграфічны навуковец, што займаецца вывучэннем старажытнай краіны фараонаў? Адказ на гэта пытанне я спрабавала знайсці з Аляксеем Шуканавым, дактарантам Варшаўскага універсітэта, нашым земляком, які ўжо некалькі гадоў займаецца вывучэннем храмавай скульптуры старажытных егіпецкіх гарадоў Луксора і Фіваў.

Гэтае захапленне, якое стала прафесіяй, пачыналася для яго з прагляду праграм “Клуба путешественников”, з артыкула ў папулярным часопісе “Техника молодёжи” пра піраміду Хеопса. Потым была дыпломная работа, прысвечаная гэтаму помніку старажытнасці, навуковая праца ў Познані, аспірантура і выкладанне ў Варшаве, праца над доктарскім праектам у Каіры.

“Я не лічу сябе археолагам у поўным сэнсе гэтага слова, — распавядае Аляксей. — Займаюся аналізам фрагментаў статуй, іх прыкладнай камп'ютарнай рэканструкцыяй, пішу па выніках даследаванняў навуковыя артыкулы. А ўжо потым калегі рэстаўратары намагаюцца “ўваскрасіць” каменных ідалаў старажытнасці”.

Што ж, даволі сціплая ацэнка ўласных дасягненняў... Таму што за год даследаванняў у храме царыцы Хатшэпсут у Луксоры навуковец узнавіў, хай сабе і толькі графічна, ужо чатыры статуі, адна з якіх з чыстага золата. Працуе Аляксей у складзе польскай місіі, перыядычна супрацоўнічае з егіптолагамі з Германіі і Францыі. Нядаўна падпісаў кантракт на два гады з Луўрам, што дазваляе яму працаваць у сховішчах Французскага археалагічнага інстытута ў Каіры.


Аляксей Шуканаў на раскопках у Егіпце

А ці не тужыць Аляксей па Радзіме? “Чытаю ў інтэрнэце навіны пра Беларусь, у онлайне гляджу на родны Мінск, — расказвае ён. — Але сумаваць няма калі, асабліва на раскопках. Паўтара месяца пралятаюць імгненна. Калі з'яўляецца вольны тыдзень або два, падарожнічаю. Ужо наведаў шэраг краін Заходняй Еўропы, Скандынавіі, Міжземнамор'я, Ізраіль, Іарданію, Саудаўскую Аравію. Гэта дапамагло па-новаму паглядзець на Радзіму, адчуць беларускую шчырасць. У Варшаве многа нашых суайчыннікаў на дактарантуры. Мы, беларусы, сябруем, дапамагаем адзін аднаму, калі гэта патрэбна”.

Не забываецца Аляксей і пра традыцыі Бацькаўшчыны. “Пад час працы ў Каіры я некалькі разоў рабіў для сваіх іншаземных калег “вечары беларускай кухні”, — прыгадвае ён. — Усім вельмі спадабаліся нашы калдуны і бліны з розным начыненнем. Але прыгатаваць беларускую вячэру складана, бо ў Каіры цяжка знайсці нашы традыцыйныя прадукты”.

На Радзіму навуковец прыязджае толькі ў перыяд летніх канікул. Прычым і тут заняты цікавай справай: не адзін год дзеці ў адным з летнікаў Мінскага раёна ведаюць яго як важатага. У верасні Аляксей Шуканаў плануе прачытаць курс лекцый па егіпталогіі на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. Гэта своеасаблівая падзяка альма-матар, бо менавіта тут пачыналася яго навуковая кар'ера.

А яшчэ ён марыць рэканструяваць хоць адну статую не толькі з дапамогай камп'ютарнай графікі, але і наяве. “Хацелася б аднавіць тое, што тысячагоддзямі было забыта. Безумоўна, хачу вярнуцца на Радзіму і стварыць у Нацыянальнай акадэміі навук аддзяленне егіпталогіі. Але ўсё ідзе паступова, пачынаецца з сумесных місій, напрацовак, пераймання вопыту. Гэтым я цяпер і займаюся.”

Ды і жаніцца — таксама ў бліжэйшых асабістых планах беларускага егіптолага.

**НАВІНЫ**

## На роднай мове

**Пачаўся Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы**

Гэтае творчае спаборніцтва, у якім актыўна прымаюць удзел найперш беларусы Польшчы, ужо стала традыцыйным. У 12-ы раз яго праводзяць рэдакцыя штотыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва” разам з Беларускім саюзам Рэспублікі Польшча. У першай узроставай групе творы на конкурс падаюць дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій, у другой — іншыя ўдзельнікі, прычым выключна аўтары, якія не ўваходзяць у літаратурныя творчыя суполкі.

На разгляд журы прымаюцца творы, якія раней нідзе не друкаваліся. Паэты падаюць па 3-5 сваіх вершаў, а творцы ў іншых жанрах — да 22 старонак стандартнага машынапісу. Конкурсныя працы можна падаваць да 12 лістапада, вынікі ж конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні.

## Тэндэнцыя да росту

**Аксана Шыкуць**

**У Беларусі павялічылася колькасць немаўлят**



Як паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, у студзені–чэрвені на свет з'явілася 53 579 маленькіх беларусаў — на 4,7 працэнта больш у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. У цэлым па краіне павелічэнне колькасці народжаных назіраецца як сярод гарадскога (на 5,1 працэнта), так і сельскага (на 3,7 працэнта) насельніцтва, прычым па ўсіх абласцях і ў Мінску.

Як у цэлым па краіне, так і ў абласцях у студзені–чэрвені зафіксавана павелічэнне каэфіцыента нараджальнасці, які склаў 11,2 на кожную тысячу насельніцтва, у тым ліку па абласцях: Брэсцкая — 11,8, Віцебская — 9,8; Гомельская — 11,5, Гродзенская — 11,3, Мінская — 11,3, Магілёўская — 10,9, Мінск — 11,4.

Захаванню тэндэнцыі да павелічэння нараджальнасці спрыяе ўзмацненне сацыяльнай абароны сем'яў з дзецьмі.

# Энтузіязм — вялікая сіла

## Валанцёры заканчваюць рэстаўрацыю фасада вуглавой вежы Любчанскага замка, адной са славутасцяў Навагрудчыны

Тут працуюць валанцёры

**Ірына Трубач**

"Першапачаткова мала хто верыў, што працай адных энтузіястаў можна рэканструяваць замак, — гаворыць дырэктар дабрачыннага фонду "Любчанскі замак" Іван Пячынскі. — Аднак сёння ўжо бачны вынікі нашых намаганняў: практычна рэканструявана адна з дзвюх вежаў, што захаваліся".

За сем гадоў ужо больш за 600 валанцёраў папрацавалі ў замку над Нёманам, гэта ў асноўным студэнты: будучыя гісторыкі і архітэктары. "Імі зроблена велізарная работа па агульнай кансервацыі, рэстаўрацыі вуглавой і ўязной вежаў, абарончай сцяны, — падкрэсліў Іван Пячынскі. — Уявіце: каб узнавіць толькі адзін метр карніза вуглавой вежы з малюнкам у тэхніцы сграфіта, спатрэбілася 15 чалавека-дзён. Усяго ж было патрэбна ўзнавіць 36 метраў такога дэкору".


БЕЛТА

Аднаўленне карнізаў на вежы — карпатлівая праца

Сваю гісторыю замак у Любчы вядзе з канца XVI стагоддзя. Будаўніцтва пачаў магнат Ян Кішка. Замак, які ўвабраў у сябе элементы готыкі і рэнесансу, быў адным з самых масштабных прыватных праектаў Вялікага княства Літоўскага. Завяршыць яго перашкодзілі міжродавыя непаразуменні Кішак і Агінскіх. А на пачатку XVII ст. Любчанскі замак перайшоў ва ўласнасць Радзівілаў і з часам стаў рэзідэнцыяй прадстаўнікоў роду па адной з ліній. Старыя вежы, збудаваныя ў XVI ст., былі ўпрыгожаны чорна-белымі малюнкі ў стылі сграфіта і гадзіннікам. Сам замкавы комплекс з чатырма вежамі і палацам дабудоўваўся з выкарыстаннем вопыту нямецкіх і нідэрландскіх майстроў: на абарончым баку паміж вежамі з'явілася фахверкавая галерэя. У тэхналогіі фахверка, вядомай у Беларусі як "прускі мур", былі выкананы і прыбудовы да вежаў і палаца Радзівілаў.

У замку размяшчаўся музей і родавы архіў Радзівілаў. Пад аховай яго муроў дзейнічала адна з найбуйнейшых друкарняў ВКЛ. У 1655 г. Любча была разрабавана казакамі, але Радзівілы ўпарта ўзнаўлялі і замак, і мястэчка. І толькі з заняпадам біржанскай родавай лініі Радзівілаў Любча страчвае былое значэнне.

У XIX ст. ад замка застаюцца толькі дзве вежы. Ён пераходзіць ва ўласнасць расійцаў Набокавых, якія зноў напаўняюць яго жыццём, узводзячы неагатычны палац і флігель, а таксама стварыўшы парк з экзатычнымі дрэвамі. Палац не перажыў Першай сусветнай вайны. Пазней тут была пабудавана Любчанская сярэдняя школа.

### МІНСКАЯ МАЗАІКА

## Тры стагоддзі — адзін лёс

**Аляксандр Пятровіч**

**Найстарэйшай жыхарцы Мінска споўнілася 115 гадоў**

Уявіце сабе: гэтая жанчына нарадзілася ў XIX стагоддзі. Цяпер мінчанка Клаўдзія Якімовіч пражывае ў Маскоўскім раёне сталіцы разам са сваёй 72-гадовай дачкой і зяцем. Між іншым, у паважанай бабулі трое дзяцей, а таксама пяцёра ўнукаў, шэсць праўнукаў і адна прапраўнучка.

У пашпарце Клаўдзіі Аляксееўны зафіксавана дата яе нараджэння: 20 жніўня 1894 года. Блізкія расказалі, што ў апошнія гады бабуля Клава ўжо амаль не выходзіць гуляць на вуліцу, ды і рухацца ёй цяжка. Тым не менш святочны торт юбілярка смакавала з задавальненнем.

## Чалавек шукае, дзе лепш...

**Звыш двух з паловай тысяч імігрантаў прыбылі ў сталіцу сёлета**

Беларуская зямля па-ранейшаму застаецца прывабнай для грамадзян з іншых краін. Так, сёлета за студзень-чэрвень у Мінск прыбыло 2 524 імігранты. Для параўнання, у першым паўгоддзі мінулага іх было 1271. У Галоўным статупраўленні сталіцы нам паведамілі, што з далёкага замежжа больш за ўсё дадалося імігрантаў з Кітая (401), Ізраіля (38), Германіі (25), ЗША (18). Сярод дзяржаваў Цэнтральнай Азіі па гэтым паказчыку лідзіруюць Туркменістан і Узбекістан: 111 і 17 імігрантаў адпаведна. Нагадаем, што паводле аператыўных дадзеных у Мінску цяпер пражывае 1 мільён 841,8 тысячы чалавек, прычым з пачатку года іх стала больш на 12,7 тысячы.

### ФАРБЫ ЛЕТА

# Новыя грані спрадвечнага сяброўства

## У балгарскіх гарадах Варне і Балчыку жывуць і перамагаюць на фэстах нашы землякі

**Іван Ждановіч**

"І ў нас у горадзе жывуць беларусы!" — прыязна ўсміхаецца балгарын, даведаўшыся, што мы з Мінска. Вечарэе ў Варне. Запальваюцца агні на шырокім праспекце імя польскага караля Уладзіслава Варненьчыка. Гэтым шляхам, дарэчы, тысячы турыстаў едуць летам з аэрапорта на знакамітыя курорты ў Златых Пясках, Албене, Балчыку... Пэўна, і не ў галаве ім, як і нашаму чарняваму суразмоўцу, што вельмі ўшанаваны ў Балгарыі кароль, які дапамагаў балгарам заваёўваць свабоду і загінуў у бітве з туркамі пад Варнай у 1444 годзе, менавіта ў Беларусі мае родавыя карані. Бо ён нашчадак Вялікага князя Літоўскага Ягайлы. А маці ягоная — наша княгіня Сафія Гальшанская, з яе, дарэчы, і пайшла еўрапейская каралеўская дынастыя Ягелонаў.

Займальных падарожжаў у беларуска-балгарскае мінулае могуць быць дзесяткі. Да прыкладу, у ліку тысяч удзельнікаў асады крэпасці Варна ў 1828 годзе быў і наш зямляк з-пад Оршы Мікалай Казарскі, брат знакамітага героя Руска-турэцкай вайны Аляксандра Казарскага. І толькі праз паўстагоддзя прыйшла вялікая перамога. "Воіны з Беларусі ў складзе Мінскага і Магілёўскага пяхотных палкоў, іншых рускіх палкоў паказвалі сапраўдныя цуды гераізму. Толькі ў Мінскай губерні ў 1877 годзе былі мабілізаваны і пасланы на фронт 11561 чалавек" — адзначаў у спецыяльным звароце да грамадзян Беларусі з нагоды 130-й гадавіны Вызвалення Балгарыі ад асманскага іга (святкуецца кожны год 3 сакавіка) пасол Балгарыі ў нашай краіне прафесар Петка Ганчаў. Цяжкімі былі і страты. А царква ў імя Аляксандра Неўскага, адзін з найстарэйшых мінскіх храмаў, была пабудавана ў 1898 годзе як помнік воінам, што загінулі падчас руска-турэцкай вайны 1877–1878 гадоў. Тут да месца сказаць, што нашы землякі асабліва вызначыліся пры ўзяцці Шыпкі і ў баях пад Плеўнай. 118 імёнаў загінулых золатам выбіты на мемарыяльных дошках унутры храма.


ІВАН ЖДАНОВІЧ

Балгарскія сувеніры — з рук нашай зямлячкі

Але вернемся ў Балгарыю сучасную, у старажытны Балчык, што непадалёк ад мяжы з Румыніяй. Нашы землякі адпачываюць тут на моры, прыязджаюць на экскурсіі агледзець рэзідэнцыю "Ціхае гняздо" румынскай каралевы Марыі — там гэтая незвычайная жанчына жыла з 1930 па 1938 год, там і вялікі Батанічны сад заснавала. А нядаўна Балчык стаў сведкам яшчэ адной бліскучай перамогі беларусаў, на гэты раз песеннай. Тут праходзіў VIII Міжнародны фестываль-конкурс "Усмешкі мора". Больш за тысячу юных артыстаў спаборнічалі ў спевах на Чарнаморскім узбярэжжы: з Балгарыі, Беларусі, Сербіі, Украіны, Польшчы, Венгрыі, Эстоніі, Расіі, Румыніі, Турцыі, Дагестана. Нашу краіну прадстаўляў узорны тэатр эстраднай песні "Хвілінка" Палаца культуры Мінскага аўтазавода. І хоць мастацкі кіраўнік Таццяна Панова і яе выхаванцы не першы раз перамагаюць на прэстыжных конкурсах, але да такога гарачага прыёму, як у Балчыку, аказаліся не гатовымі. Таму ў фінале конкурсу зала ўзрушана апладзіравала нашым амаль дзесяць хвілін, а яны... плакалі на сцэне. "Хвілінка" паўдзельнічала ва ўсіх конкурсных намінацыях, прычым заваявала два першыя і тры другія месцы. Дарэчы, і на дзіцячым конкурсе "Марская ракавінка" ў балгарскім горадзе Сазаполі спевакі з Мінска сталі абсалютнымі пераможцамі.

...Мы выходзілі з тэрыторыі рэзідэнцыі каралевы Марыі, і прадаўшчыца ў сувенірнай краме на алеі прапанавала набыць што-небудзь на памяць. Аказалася, Таццяна Прусянкова родам з Мінска, адпачынак у Балчыку закончыўся для яе ў 2004 годзе замужжам: цяпер яна Кірчава. Сыну ўжо чатыры гады, "ён, як і муж Георгій, вельмі любіць дранікі". Яно і зразумела: не толькі ж за песні падабаюцца братам-балгарам беларускія дзяўчаты... У Таццяны, дарэчы, у Балчыку шмат сяброўак з Беларусі, Украіны, Расіі, і ўсе яны падумваюць пра стварэнне сваіх зямляцтваў, каб не адрывацца ад родных каранёў.

# Прыемныя моманты сезона

## У Рускім тэатры сёлета шмат юбілеяў вядомых артыстаў

Міхаліна Чаркашына

Зусім нядаўна, здаецца, акцёрская трупа Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага пайшла ў адпачынак, а вось і новы, 77-ы тэатральны сезон аб'яўлены. Як павялося, пасля вяртання акцёраў на службу ў Рускім тэатры (так ён называўся раней, так і цяпер яго называюць тэатралы) адбыўся збор трупы. Карэкціравалі планы, абмяркоўвалі тэрміны здачы новых спектакляў. А яшчэ гаварылі пра тое, як лепш адсвяткаваць юбілеі вядомых калег-акцёраў і Сяргея Кавальчыка, галоўнага рэжысёра тэатра.

Адкрыццё сезона супала з юбілеем актрысы Алены Пастрэвіч, яна шмат гадоў іграе ў спектаклі “Адзіны спадчыннік”. Гэта быў ужо 991-ы паказ пастаноўкі па п'есе французскага драматурга Ж.-Ф. Рэньяра. Сама я не раз глядзела гэту любімую гледачом камедыю пра багатага старога Жэронта, чыя спадчына магнетычна дзейнічае на ўсіх яго родных і блізкіх. Па-мойму, гэта адна з тых цудоўных п'ес, у якой усе акцёры працуюць з захапленнем. У ёй шмат гумару, жартаў і весялосці, а таксама нечаканых драматургічных паваротаў, якія захопліваюць увагу гледача. Ролю Жэронта выканаў, як заўсёды бліскуча, народны артыст Беларусі Аляксандр Ткачонак. У наступным тэатральным сезоне ён таксама адсвяткуе юбілей: 60-гадовы. А вось як пройдзе гэты вечар, Ткачонак трымае пакуль у сакрэце.

А заслужанаму артысту Беларусі Андрэю Душачкіну 50 споўніцца сёлета. Напэўна, юбілей патомнага акцёра таксама стане падзеяй у тэатральных колах. І Сяргей Кавальчык, у якога юбілейная лічба меншая на дзясятку, адзначыць саракавы дзень нараджэння, вядома ж, новымі пастаноўкамі, сярод якіх будуць і рускія вадэвілі.

Дзіцячую глядацкую аўдыторыю тэатр абяцае парадаваць казкай “Зоркі сёмага неба”, гэта праект Генадзя Давыдзькі. Радуе, што ён, былы акцёр і дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы, хоць і шчыльна заняты ў рабоце беларускага парламента, сувязяў з тэатрам не парывае.

І, нарэшце, пра галоўную падзею новага сезона ў Рускім тэатры. Вынікі сваёй творчасці падвядзе народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі. Яму споўніцца 80. А вось як усё пройдзе гэтым разам, пажывём – пабачым. Але ў адным я ўпэўнена: будзе таленавіта. Зрэшты, як і ў папярэднія юбілейныя вечары артыста, надзвычай любімага публікай.



Аляксандр Ткачонак заўсёды ў выдатнай творчай форме

# Як у былыя часы

Сяргей Кулягін

**Сустракаць цягнікі на магілёўскім вакзале даручана бронзаваму Станцыйнаму дазорцу**

Скульптурна-дэкаратыўная калекцыя Магілёва папоўнілася яшчэ адной кампазіцыяй. Да тэатральнай “Дамы з сабачкам” і знакамітага “Астролага” (на плошчы Зорак) мінскага скульптара Уладзіміра Жбанава далучыўся яго ж бронзавы “Станцыйны дазорац” на чыгуначным вакзале.

Скульптура ў поўны чалавечы рост усталявана адразу на пероне і поўнасцю адпавядае стылістыцы пачатку ХХ стагоддзя. На галаве чыгуначніка красуецца форменная фуражка з кукардай, плечы затуляе доўгая плашч-накідка, а ў руках ён трымае станцыйны ліхтар і старадаўні гадзіннік. Побач на сцяне вакзала красуецца невялікі бронзавы звон, у які можа пазваніць любы жадаючы.

“Гэта, хутчэй, зборны вобраз старога чыгуначніка, з дапамогай якога мне хацелася перадаць такі прывабны дух эпохі, якая прайшла, узнікнення ў 1902 годзе чыгуначнай станцыі ў Магілёве”, — адзначыў падчас гутаркі аўтар праекта. Па яго словах, каб увасобіць ідэю ў жыццё, яму нямала прыйшлося папрацаваць у музеі Беларускай чыгункі. Толькі дзякуючы гэтаму скульптар здолеў так дакладна перадаць дэталі формы чыгуначніка тых часоў.

БЕЛАРУСКАЯ ДУША

# Фізіка і лірыка Мікалая Сазонава

## У настаўніка з Дзяржынскага раёна багатая калекцыя кветак і вялікі вопыт водных падарожжаў

Лявон Целеш

Што ёсць сад? Спрадвеку ў Беларусі ён сімвалізуе высокую прыгажосць і глыбокі спакой, ці благадаць, як кажуць хрысціяне. Прачуўшы, што зямляк наш сатварыў батанічны цуд пры сваім доме, мы з жонкай Людмілай, вялікай аматаркай садовых клопатаў, выбраліся па вопыт разам. Прыехалі ў вёску Баравое раніцой, яшчэ “па расе”. На ганку дома, што патанае ў моры кветак, дрэваў і кустоў, сустракаў гаспадар, Мікалай Сазонаў — высокі, загарэлы мужчына з добрай усмешкай на твары. У мясцовай школе Мікалай Аляксеевіч выкладае фізіку і інфарматыку, а яго жонка Тамара Яўгенаўна — матэматыку. Дарэчы, у “фізікі” падаліся і іхнія дзеці: Антон і Ганна ўжо маюць дыпломы аднаго з мінскіх універсітэтаў.

Гаспадары, як аказалася, і самі толькі трапілі на баль кветак “з карабля”: разам з дачкой вандравалі на байдарцы па Віліі і яе прытоку Дзвіносе. Стартавалі непадалёк ад мястэчка Плешчаніцы, за два тыдні дайшлі амаль да Літвы. Шлях немалы, пад 300 кіламетраў, і ўражанняў — мора! Наогул Сазонаў лічыць Вілію з яе чысцюткай вадою, пясчанымі, парослымі барамі берагамі адной з найпрыгажэйшых рэчак Беларусі. Між іншым, і Адам Міцкевіч захапляўся ёй, пісаў:“Вілія, маці рачулак празрыстых...” Паходы на байдарцы — любімы від адпачынку настаўніка са студэнцтва. З цеплынёй згадвае, як 28 гадоў таму запрасіў у падарожжа па той жа Віліі Тамару, і ўжо недзе перад самым Вільнюсам прапанаваў ёй руку і сэрца. Сведкамі тых рамантычных часоў у доме і па сёння застаюцца сасновыя шышкі, назбіраныя тады на беразе. Абодва рамантыкі! Потым ужо сям'ёй не раз вандравалі яны па Нёмане, Шчары, іншых рэчках.



ІВАН ЖДАНОВІЧ

Вандроўкай па Віліі сям'я Сазонавых вельмі задаволена

Яшчэ адно захапленне гаспадара, у якое ўкладаюцца і праца, і веды, і шмат часу, — вырошчванне розных кветак, экзатычных дрэваў і кустоў. Пачыналася з малога: больш за 30 гадоў таму сястра на роднай Шклоўшчыне падарыла Мікалаю некалькі цыбулін цюльпанаў. Ён іх пасадзіў, і калі кветкі раскрыліся, то столькі радасці было ў ягонай душы, такое ўзрушэннe!.. Мікалай Аляксеевіч водзіць нас па гаспадарцы, паказвае кветкі, расказвае пра іх, а ў нас вочы разбягаюцца: тут як філіял Цэнтральнага батанічнага сада Беларусі. Вось любімыя ім клематысы, якія разводзіць больш за 25 гадоў: расліны дасягаюць у вышыню 5-6 метраў, іх у садзе каля 60 гатункаў. Цюльпанаў ужо больш за 200 гатункаў, а гладыёлусаў — каля 350.

Пра некаторыя з раслінаў і я, выпускнік геаграфічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, чуў хіба што на лекцыях па батаніцы: вейгела, амарыліс, будлея, бругмансія... Прыжыліся ў садзе і шматлікія кусты і дрэвы з паўднёвых краін. Прычым не толькі добра растуць, але і родзяць грэйпфрут, апельсін, лімоннік кітайскі, фігавае дрэва — інжыр... Экзотыка! А пад нагамі сцелецца жывы дыван з верасу, кісліцы, дыван-травы, лясных і лугавых кветак Беларусі. Між іншым, калекцыя папаўняецца і пад час байдарачных паходаў, і на радзіме Тамары Яўгенаўны, на Іўеўшчыне, у сенакосную пару. Растуць у старанна дагледжаным садзе і памідоры, ажно каля 100 гатункаў, прычым яны тут найперш у пашане як дэкаратыўныя культуры. Уся ж дзівосная прыгажосць умяшчаецца крыху болей чым на 15 сотках. Ва ўсіх справах Мікалаю Аляксеевічу, вядома ж, дапамагаюць жонка і дзеці.

Працяг дзівоснага саду — памяшканні школы, якая побач. У яе калідорах звісаюць гірлянды бругмансіі з вялізнымі прыгожымі жоўтымі кветкамі. Тут жа растуць лаўр, інжыр, апельсін, лімон... А кабінет фізікі патанае ў кветках і зеляніне. Гаспадар звяртае ўвагу на кактус, якому больш за 35 гадоў. Нібы ў зялёнай раме акно кабінета — гэта ўецца сталетнік, ці альяс. Пэўна ж, падумалася, і ў душах вучняў Мікалая Аляксеевіча яго зачараванасць прыгажосцю пакідае добры след. Іх настаўнік да таго ж выдатны фатограф, добра іграе на баяне. А напрыканцы нашай сустрэчы, за кубачкам чаю, ён спяваў пад гітару свае песні на словы беларускіх паэтаў. Яшчэ Сазонаў умее вязаць, шыць на швейнай машынцы. Ён і муляр: у хаце добра служыць складзеная самім гаспадаром печ...

Карацей, Мікалай Аляксеевіч — і фізік, і лірык. Хай будзе сонечна ў ягоным садзе!

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11 E—mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
Аб'ём выдання: 1 друк. арк. Тыраж: 2000 Заказ: 964